© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

*Хто прайграў вясну-97: апазіцыя ці ўлада? Артыкул Алега Груздзіловіча (стар. 4)*
*Каму належыць творчая спадчына Адама Міцкевіча? (стар. 6)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 30 траўня 1997 г. № 57 Кошт свабодны

## За спазненне на працу будуць штрафаваць

### *А злосных парушальнікаў працоўнай дысцыпліны чакае звальненне з «воўчым білетам»*

Такія пакаранні для дзяржаўных служачых прадугледжвае распрацаваны адміністрацыяй прэзідэнта праект дэкрэта *«Аб неадкладных мерах па ўмацаванні працоўнай дысцыпліны»*. Напрыклад, за спазненне на працу ці адсутнасць на працоўным месцы без уважлівай прычыны можа быць накладзены штраф у памеры ад 0,1 да 2 мінімальных зарплат. За з'яўленне на працы ў нецвярозым стане чыноўніка чакае звальненне. Звальняць будуць таксама за выкарыстанне службовага транспарту і іншай тэхнікі ў асабістых мэтах, за два прагулы на працягу 12 месяцаў і іншыя парушэнні.

Акрамя таго, уводзіцца так званы «воўчы білет» — дзяржаўныя служачыя, якіх звольнілі з працы за парушэнне працоўнай дысцыпліны, не могуць быць прынятыя на службу ў дзяржаўны апарат.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Лукашэнка застаўся без «плана Маршала»

**У сераду прэм'ер-міністр Сяргей Лінг і першы намеснік міністра замежных справаў Сяргей Мартынаў узялі ўдзел ва ўрачыстасцях у Гаазе, прысвечаных 50-годдзю плана Маршала.**

З гэтай нагоды ў сталіцу Нідэрландаў былі запрошаныя кіраўнікі ўсіх еўрапейскіх краінаў — за выключэннем беларускага прэзідэнта. У сувязі з парушэннямі правоў чалавека ў Беларусі Лукашэнка не атрымаў запрашэння на гэты прадстаўнічы міжнародны форум.

На ўрачыстай цырымоніі ў Гаазе выступіў з прамовай прэзідэнт ЗША Біл Клінтан. Ён заклікаў заходнееўрапейскія краіны дапамагчы станаўленню дэмакратыі і рыначнай эканомікі ў былых камуністычных краінах. Прэзідэнт ЗША не прапанаваў новых рэгіянальных праграм дапамогі. Міжнародныя фінансавыя інстытуцыі ўжо прадаставілі краінам Усходняй Еўропы дапамогу ў памеры 50 млрд. долараў, а 45 млрд. долараў былі інвеставаныя ў іх эканоміку прыватнымі фірмамі.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Кансультацыі сарваліся

**Запланаваныя на 29 траўня ў Мінску кансультацыі паміж прэзідэнцкай адміністрацыяй і разагнаным Вярхоўным Саветам пры пасрэдніцтве місіі Еўрапейскага саюза сарваліся.**

Прычына ў тым, што прадстаўнік прэзідэнцкага боку міністр замежных справаў Іван Антановіч, які павінен быў «пачаць дыялог», 28 траўня з'ехаў у Партугалію.

Пачаўчора на прэс-канферэнцыі прэзідэнт Лукашэнка растлумачыў сваю непрымірымую пазіцыю наконт запланаваных кансультацыяў. Лукашэнка заявіў, што ён хоць і *«гатовы»* да дыялогу, але не збіраецца *«адступаць назад»*. Унесці папраўкі ў Канстытуцыю, па ягоных словах, *«сёння немагчыма»*.

Амбасада ФРГ у Мінску паведаміла, што *«па просьбе беларускага кіраўніцтва паседжанне рабочай групы пераносіцца на больш позні тэрмін, паколькі не ўсе члены гэтай групы знаходзяцца ў Мінску»*. Новая дата пакуль не вызначана.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## У пашпарт вяртаецца «пятая графа»

**Савет міністраў прыняў пастанову, каб у пашпарт грамадзяніна РБ уносіліся звесткі *«аб нацыянальнай прыналежнасці ўладальніка пашпарта»*.**

Вызначаць нацыянальнасць будуць з дапамогай адпаведнай інструкцыі, якую даручана распрацаваць міністэрству юстыцыі. Інструкцыя будзе называцца так: *«О порядке определения национальной принадлежности граждан Республики Беларусь»*.

**М.Г.**

**СВАБОДА да канца года**

**Газету СВАБОДА можна выпісаць у любым аддзяленні пошты і «Белсаюздруку».**

**Кошт падпіскі:**
**1 месяц – 25 тыс. рублёў**
**3 месяцы – 75 тыс. рублёў**
**6 месяцаў – 150 тыс. рублёў**



*Без каментарыяў*

## Вясна прайшла. Рыхтуемся да восені

**Беларускі народны фронт рыхтуецца да правядзення кампаніі пратэсту «Восень-97».**

Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык. Па ягоных словах, кампанія вулічных пратэстаў «Вясна-97» цалкам удалася. Менавіта гэтыя акцыі, лічыць В.Сіўчык, пасадзейнічалі таму, што рэйтынг Лукашэнкі ў 1997 годзе прыкметна знізіўся, а рэйтынг БНФ і іншых апазіцыйных рухаў і партый узрос. Апрача таго, адзначыў В.Сіўчык, *«рэжыму не ўдалося правраць міжнародную ізаляцыю і сфарміраваць сабе псеўдадэмакратычны імідж»*.

Сярод найбольш значных акцый года ён адзначыў правядзенне шматтысячных мітынгаў і дэманстрацый, а таксама пікеты ў падтрымку незалежнасці Беларусі за мяжой — у ЗША, Вялікабрытаніі, Чэхіі, Польшчы, Літве, Латвіі і Украіне. В.Сіўчык асабліва падкрэсліў актыўнасць моладзі і акцыю «Горад — наш!», калі ў шматлюдных месцах Мінска і іншых гарадоў вывешвалі сотні бел-чырвона-белых сцягоў. *«Восень-97» мы абавязаны добра спланаваць; наша галоўная мэта — адстаяць незалежнасць краіны»*, — сказаў Вячаслаў Сіўчык.

## Калі няма дыялогу – застаюцца мітынгі

**Большасць мінчан, якія бралі ўдзел у апытанні грамадскай думкі, праведзеным незалежнай сацыялагічнай службай «Ольхон», лічаць неабходным дыялог апазіцыйных сілаў з кіраўніцтвам краіны.**

Такой думкі прытрымліваецца 52% рэспандэнтаў. Амаль палова — 46% — упэўненыя, што станоўчую ролю адыграла б аб'ектыўнае *асвятленне апазіцыйных меркаванняў у сродках масавай інфармацыі*. Чацвёртая частка (25%) рэспандэнтаў паказалі на арганізацыю *масавых мітынгаў* з прыцягненнем розных слаёў насельніцтва як на эфектыўную форму выказвання пратэсту; 5% лічаць апраўданымі акцыі масавага *грамадзянскага непадпарадкавання* ўладам.

Адказваючы на пытанне, якая рэакцыя кіраўніцтва краіны на дзеянні апазіцыі найбольш адпаведная, 62% адказчылі *аб'ектыўную інфармацыю ў друку з аб'ектыўнай крытыкай*. 16% апытаных парайлі ўладам *ніяк не рэагаваць, трымацца спакойна*.

Пэўная частка мінчан настроеныя вельмі радыкальна: 8% выказаліся за *арышт найбольш актыўных лідэраў апазіцыі*, а 6% — за *выгнанне іх з краіны*. На арганізацыю *альтэрнатыўных мітынгаў*, накіраваных супраць апазіцыі, указалі 4% апытаных.

*БелаПАН*

## «Сарваў пагон маёру»?

Учора суд Партызанскага раёна г.Мінска пачаў разгляд крымінальнай справы супраць аднаго з дэманстрантаў. Беларускі Хельсінкскі камітэт лічыць гэты працэс палітычным.

Судзяць хлопца з г.Беразоўка Лідскага раёна — 31-гадовага Аляксандра Цішука. Ён быў арыштаваны яшчэ 14 сакавіка падчас правядзення ў Мінску маладзёжнай акцыі «Беларусь — у Еўропу». Яго абвінавацілі ў аказанні супраціўлення работнікам міліцыі і два з паловай месяцы трымалі ў следчай турме на вуліцы Валадарскага.

Адвакат Марына Вараб'ёва сцвярджае, што справа супраць яе падабароннага *«шытая белымі ніткамі»*. Цішука абвінавачваюць у тым, нібыта ён *«сарваў пагон маёру Іпатаву»*. Падсудны заявіў, што ніякія пагоны ён не зрываў, а ўсяго толькі спрабаваў дапамагчы жанчыне, якую збівалі міліцыянты, разганяючы людзей з плошчы Свабоды.

Сёння судовы працэс будзе працягвацца. Справу разглядае суддзя Трубнікаў.

Нагадаем, што аналагічныя крымінальныя справы ўзбуджаныя яшчэ супраць чатырох чалавек. Двое з іх (Аляксей Коваль і Уладзімір Лыско) у сераду былі выпушчаныя з турмы на волю пад падпіску аб нявыездзе.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Студэнты задумалі пікет

### *На гэты раз без шэсця*

Пікет, прымеркаваны да гадавіны жорсткага разгону ўладамі студэнцкай дэманстрацыі 30 траўня 1996 г. і арышту многіх яе ўдзельнікаў, збіраюцца правесці сёння ў Мінску прадстаўнікі некалькіх маладзёжных апазіцыйных арганізацыяў.

Яго ўдзельнікі плануюць сабрацца ў 17 гадзін каля будынка Нацыянальнага банка (на тым месцы, дзе летась міліцыянты збілі і арыштавалі дзесяткі маладых людзей) і выказаць свой пратэст супраць праводзімых уладамі палітычных рэпрэсіяў.

Паводле нашых звестак, на гэты раз маладыя апазіцыянеры не збіраюцца арганізоўваць шэсце па праспекту Скарыны.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## У Чыкіна «чыкнулі» аўтамабіль

Міліцыя аператыўна адшукала скрадзены «Запарожац» намесніка мэра Мінска Віктара Чыкіна.

Праз суткі аўтамабіль знайшлі ў ковецы ў Лагойскім раёне. Віктар Чыкін распавёў карэспандэнту СВАБОДЫ, што пакінуў свой лімузін ля шашы, у 200 метрах ад лецішча, а *«нехта захацеў пакатацца»*. Прыватную ўласнасць камуніста не пашкадавалі і выцягнулі акумулятар. У бліжэйшы час Віктар Чыкін зноў будзе на колах.

**А.Д.**

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



## Прафсаюзы збіраюцца звярнуцца ў Вярхоўны суд

**Міністэрства юстыцыі адмовілася зарэгістраваць Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў.**

Па словах чыноўнікаў, *«прадстаўленыя дакументы не адпавядаюць патрабаванням»*. Маецца на ўвазе лукашэнкаўскі ўказ ад 25 жніўня 1995 года, які прыпыніў дзейнасць Свабоднага прафсаюза Беларусі. Пры гэтым чыноўнікі не звяртаюць увагу на тое, што Канстытуцыйны суд прызнаў гэты ўказ незаконным, а ў 1996 годзе СПБ прайшоў перарэгістрацыю ў міністэрстве юстыцыі. Спачатку Мінюст патрабаваў, каб СПБ выйшаў з ліку заснавальнікаў Кангрэса, а потым адтэрмінаваў рэгістрацыю на месяц. БКДП збіраецца адстойваць свае правы ў Вярхоўным судзе.

**А.Д.**

## Куды прыстроіць кіраўнічае папаўненне?

**Магілёўскі гарвыканкам спешна шукае працоўныя месцы для выпускнікоў прэзідэнцкай Акадэміі кіравання.**

Рэч у тым, што з Акадэміі кіравання пры прэзідэнце прыйшоў ліст, у якім прапануецца вырашыць пытанне з выдзяленнем працоўных месцаў выпускнікам акадэміі. У выканкаме няма чыноўніцкіх вакансіяў. Няўжо давядзецца «пацясніцца»?

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Падаткаў не плаціць кожны дзесяты

**У Магілёўскай вобласці 10% суб'ектаў гаспадарання не плацяць падаткаў.**

Такая інфармацыя прагучала на паседжанні Каардынацыйнага савета праваахоўных органаў Магілёўскай вобласці. Пры гэтым адзначалася, што форма ўласнасці прадпрыемстваў-неплацельшчыкаў значэння не мае: запазычанасць па сплаце падаткаў ёсць і ў дзяржаўных, і ў прыватных прадпрыемстваў. Нядоімкі ў бюджэт толькі па падатках мінулага года складаюць 60 мільярдаў рублёў.

*БелаПАН*

# Аўтограф Джэсікі Пірс

**У аўторак у Гродне быў адчынены бізнес-цэнтр. Ва ўрачыстасці брала ўдзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс.**



*Пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс.*

Гэта ўжо другі рэгіянальны бізнес-цэнтр, створаны на грошы ангійскага ўрада (першы адчыніўся летась у Брэсце). Гродзенскі праект ажыццяўляецца супольна брытанскім фондам *Know-How* і Міжнароднай фінансавай карпарацыяй.

Бізнес-цэнтр знаходзіцца на пляцы Антонія Тызэнгаўза ў знакамітым помніку архітэктуры канца XVIII ст. — «крывой афіцыне», дзе пры апошнім каралі Станіславе Аўгусце Панятоўскім дзейнічала музычная акадэмія. Гродзенскі магістр А.Тызэнгаўз больш як 200 гадоў таму правадзіў буйныя эканамічныя рэформы,ператвараўшы тагачаснае Гродна ў развіты еўрапейскі горад.

Цень каралеўскага рэфарматара, аднак, наўрад ці дапаможа руху ў бок рэформаў сёння. Арганізатарам бізнес-цэнтра была прадэманстравана на самым высокім афіцыйным узроўні абыякавасць. Папярэдне складзены спіс удзельнікаў мерапрыемства распачыналі кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі М.Мясніковіч і памочнік прэзідэнта П.Капітула, далей значыліся прэм'ер С.Лінг з першым намеснікам П.Пракаповічам і два міністры — прадпрымальніцтва і інвестыцый, па кіраванні дзяржмаёмасцю і прыватызацыі. Ніхто з іх не прыехаў. Нават старшыня аблвыканкама А Дубко не паказаўся.

Я пацікавіўся ў Карла Дагенхарта — кіраўніка праекта МФК «Падтрымка прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі», ці не расчараваны ён такой абыякавасцю чыноўнікаў самага высокага ўзроўню. Ён адказаў, што да гэтага ўжо прызвычаены. Але калі высокія чыноўнікі далі згоду на ўдзел, трэба было б папрасіць арганізатараў змяніць дату адкрыцця — або перанесці сваё справы. Такія правілы дыпламатыі ўвогуле добрага тону. Але чыноўнікі палічылі за лепшае паказаць, што прыватны бізнес іх зусім не цікавіць.

Гэтая своеасаблівая пагарда з боку ўрада ніяк не адбілася на ўсім мерапрыемстве. Чыноўнікі спаслаліся на тое, што ў іх нейкае важнае паседжанне. А вось Джэсіка Пірс усё ж прыехала ў Гродна на сваім белым «лэндроверы», нягледзячы на тое, што 27 траўня — традыцыйнае брытанскае свята *Spring Holiday*. На прэс-канферэнцыі ў Новым каралеўскім замку яна сказала, што брытанцы ў мінулым называліся *«нацыяй крамнікаў»*, і яны ганарацца гэтым, бо менавіта малы бізнес даў аснову сённяшняй заможнасці англічан. Тое ж самае, па яе словах, можа адбыцца і ў Беларусі.

На сустрэчы прысутнічалі, апроч групы дыпламатаў, прадстаўнікі міжнародных фінансавых арганізацый у Беларусі. З беларускага боку парадаваліся падзеі пара мясцовых чыноўнікаў і адзін начальнік упраўлення з міністэрства прадпрымальніцтва, які фактычна і прадстаўляў урад. Высветлілася, што амаль з 40 тысяч малых прадпрыемстваў і прыватных прадпрымальнікаў улады Гродзенскай вобласці перарэгістравалі крыху больш за 2 тысячы такіх прадпрыемстваў і 5 тысяч прадпрымальнікаў. Іншымі словамі, пасля перарэгістрацыі паводле прэзідэнцкага ўказу іх засталося ў 5 (!) разоў менш.

Непрыемнае ўражанне ад лічбаў крыху палепшылася, калі першы ўдзельнік першых курсаў для прадпрымальнікаў, якія ўжо наладзіў гродзенскі бізнес-цэнтр, — А.Цалавальнік атрымаў штодзённік з аўтографам Джэсікі Пірс.

Потым гасцей запрасілі на безалкагольны фуршэт у авальную залу. Калісьці ў ёй балявалі апошні кароль Рэчы Паспалітай, а потым тут была самая прэстыжная ў горадзе сталоўка абкама КПБ.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Апазіцыйныя дэпутаты чакаюць перамоваў

**Найбольш актуальнае пытанне, якое надавала цікавасць паседжанню Вярхоўнага Савета, што адбылося 28 траўня, — пра перамовы з выканаўчай уладаю аб унясенні зменаў у Канстытуцыю.**

Пераважная большасць дэпутатаў, што выступалі па гэтым пытанні, аднязначна выказаліся за тое, каб за аснову бралася адзіная легітымная Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь — прынятая ў 1994 г. Гэтым і будуць кіравацца члены пагадняльнай камісіі ад Вярхоўнага Савета (Г.Карпенка, М.Грыб, П.Краўчанка). На думку дэпутата А.Лябедзькі, факт правядзення такіх перамоваў з'яўляецца маленькай перамогай апазіцыі: *«Ясна, што Лукашэнка, хоць і пайшоў на перамовы, не хоча ніякіх рэальных зменаў,* — адзначыў Лябедзька, — *але цяпер, у прысутнасці еўрапейскіх прадстаўнікоў, гэта стане абсалютна відавочным сусветнай супольнасці».*

Для дапамогі членам пагадняльнай камісіі ад ВС створаны кансультатыўны савет, у склад якога, акрамя дэпутатаў, увайшлі іншыя палітычныя дзеячы і юрысты: намеснік старшыні БНФ Ю.Хадыка, былы міністр унутраных справаў Ю.Захаранка, член Канстытуцыйнага суда папярэдняга складу М.Пастухоў і інш. У бліжэйшы час кансультатыўны савет будзе збірацца рэгулярна, і першае яго паседжанне прайшло адразу пасля паседжання ВС. Паколькі, у сувязі з перамовамі, можа ўзнікнуць патрэба ў аператыўных рашэннях, спікер С.Шарэцкі папрасіў дэпутатаў быць гатовымі ў любы момант сабрацца на пазачарговае паседжанне.

Акрамя таго, дэпутаты прынялі за аснову праект закона «Аб непрымяненні тэрмінаў даўнасці за здзяйсненне службовымі асобамі злачынстваў, што парушаюць правы і свабоды грамадзянаў». У законапраекце пералічаныя службовыя асобы (напрыклад, супрацоўнікі сілавых структураў, суддзі, дэпутаты «палаты», «вертыкальшчыкі»), да злачынстваў якіх па шэрагу артыкулаў крымінальнага кодэксу не будзе тэрміна даўнасці. Па рашэнні суда ў дачыненні да гэтых асобаў можа быць прыменяная люстрацыя (пазбаўленне права займаць дзяржаўныя пасады на пэўны тэрмін).

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Войска вучыцца, міністр ацэньвае



**За вучэннямі Мабільных сіл беларускага войска на Абуз-Лясноўскім палігоне пад Баранавічамі асабіста назіраў міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў.**

Міністр заявіў, што ён *«крайне крытычна»* ставіцца да выказванняў аб тым, што на сённяшні дзень Узброеныя сілы Беларусі з'яўляюцца аднымі з найбольш баяздольных у Еўропе. Па словах кіраўніка ваеннага ведамства, у яго на гэты конт ёсць *«своя ацэнка»*. Генерал Чумакоў лічыць, што беларуская Узброеныя сілы сёння — *«крyемыя і боеготовые»*. Упэўненасць міністра абароны ў гэтым грунтуецца на *«выніках вучэнняў, заняткаў і падрыхтоўкі штабоў»*.

*БелаПАН*



## Мінскія ліцэісты паказалі клас

**Навучэнцы ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі паспяхова выступілі на Міжнародным конкурсе юных піяністаў імя Шапэна.**

Першае месца на конкурсе заняў Жэня Маліноўскі, а Даша Марос — другое. Як паведаміў дырэктар ліцэя Уладзімір Кузьменка, аўтарытэтнае журы пад старшынствам выдатнай польскай піяністкі Халіны Чэрні-Стэфаньскай адзначыла, што маладыя беларускія музыканты прадэманстравалі цудоўнае валоданне інструментам, яркія тэмбравыя фарбы. У гэтым творчым спаборніцтве, якое праходзіла ў польскім горадзе Шафарня, дзе любіў адпачываць Фрэдэрык Шапэн, удзельнічалі больш як трыццаць музыкантаў з Польшчы, Беларусі, Расіі, Карэі, Балгарыі, Украіны, Літвы, Германіі. Апрача музыкі Фрэдэрыка Шапэна, яны выконвалі творы Ёгана Себасцьяна Баха і сучасных кампазітараў.

*БелаПАН*

*Спажывецкі рынак*

# Перш чым купіць – добра падумай

**У Мінску праходзіць некамерцыйная выстава «Свет спажыўца». Там сапраўды ёсць на што паглядзець.**

Галоўным арганізатарам мерапрыемства стала Беларускае таварыства абароны спажыўцоў, і разлічаная выстава перш за ўсё на звычайнага пакупніка, каб дапамагчы яму разабрацца ў сённяшнім рынку, на якім тавараў і паслуг даволі шмат, але часцяком яны бываюць вельмі нізкай якасці.

У выставачнай зале, што на вул. Мележа, 1, паралельна змясціліся дзве экспазіцыі. Адна з іх прадстаўляе прадукцыю беларускіх вытворцаў, якая вызначаецца высокімі спажывецкімі вартасцямі, добрай якасцю, надзейнасцю і можа годна канкураваць з замежнымі таварамі. У прыватнасці, тут можна ўбачыць розную побытавую тэхніку Беларускага вытворчага аб'яднання радыётэхнікі, якое мы часцей называем скарочана — «завод БелВАР».

Другую частку выставы складаюць тавары, якія купляць нельга. Перш за ўсё гэта прадукты, тэрмін захоўвання якіх скончыўся. На экспазіцыі іх было не так шмат, але трапілі яны туды не адкуль-небудзь, а з крамаў і рынкаў. Гэта значыць, што пакупнікі ўсё яшчэ рызыкуюць купіць заляжалы тавар у нядобрасумленнага прадаўца, калі добра не паглядзяць на маркіроўку.

Наш спажывец не асабліва пераборлівы і, магчыма, не вельмі адрозніває салаку адількі. Але на выставе можна на свае вочы пераканацца, што ў кансервах Вентспілскага рыбакамбіната «Салака подкопченная в масле» ў сапраўднасці знаходзяцца пераважна галовы і вантробы проста дробных рыбак. Гэтаксама там вы даведаецеся, што «натуральныя сокі» *Tropicola* вытворчасці маскоўскай фірмы «Салют» на смак і пах нагадваюць танныя карамельныя цукеркі. Як засведчылі эксперты, партыя кавы *Golden Brazil* (такія бляшанкі можна ўбачыць ледзь не ў кожным камерцыйным кіёску) пахне зусім не каваю, у маянэзе «Любіцельскі» Слуцкага сыраробнага камбіната зашмат жалеза, а ў кансервах «Печань траскі» Мурманскага рыбаккалгассаюза — о жах! — знаходзяцца чэрві-паразіты.

Асобнай групай на выставе размешчаныя тэхнічныя тавары, якія проста не працуюць. Тут стаяць гомельская пральная машына «Алеся», тэлефонны апарат «Інтэграл», фен і электрадрыль барысаўскага завода «Экран» і іншае абсалютна новае ламачча.

Несумненна, ад такіх выставаў ёсць карысць і для пакупніка, і для вытворцы, які пасля такой антырэкламы будзе вымушаны палепшыць якасць сваіх тавараў. Але ж усім усяго не пакажаш, у гандлі трапляецца шмат няякасных тавараў, ад чаго цярпяць неабазнаныя спажыўцы. *«Добра было б, каб такую экспазіцыю зрабілі пастаяннай»,* — сказала адна жанчына, што прыйшла на выставу з дзвюма дочкамі. А яшчэ лепш — каб не толькі ў Мінску.

**Ян ГАЛЕВІЧ**

Чытайце газету СВАБОДА ў Internet
http:\\www.gis.minsk.by

ОРГАНИЗАЦИЯ КУПИТ
б/у ленточные и круглопильные станки для распиловки древесины.
Возьмем в аренду или выкупим помещения с пилорамами, б/у лесовоз с манипулятором.
Тел./факс (017) 234-82-96

# Эх ты «доля», моя доля

*Имущество готовы разделить, но колхозы хотят оставить*

К такому выводу приводит ознакомление с проектом закона «Об адаптации сельскохозяйственных предприятий Республики Беларусь к рыночным условиям», который на днях был одобрен Совмином РБ.

Уже само название предлагаемого закона, которое звучит несуразно и вообще не по-славянски (не по-русски и не по-белорусски), целиком выражает традиционное недоверие наших правителей к крестьянству. Раньше учили хозяйствовать, а теперь собираются их "адаптировать", хотя многим колхозам, говоря медицинским языком, уже не поможет и реанимация.

Колхозы и совхозы планируется преобразовать в субъекты хозяйствования с долевым участием. Делать это будут на принципах «добровольности и социальной справедливости». Колхозы будут преобразовывать по решению общих собраний, а совхозы — в порядке, аналогичном для госпредприятий. Но убыточные могут быть преобразованы по решению райисполкомов. В этом случае, очевидно, нарушится принцип добровольности, и все преобразования закончатся с разделом хомутов и прочей упряжи, которой на всех, конечно же, не хватит.

Принцип социальной справедливости тоже поставлен под вопрос. Например, право на «доли» предоставляется только нынешним членам колхоза, а пенсионеры исключаются из «дележки», хотя в основном все колхозное добро создавалось их трудом. Да и трудно найти больших колхозных патриотов, чем они.



Колхозникам дают «вольную», но без земли.

Впрочем, когда станут "делить хомуты", то своей доли могут лишиться и некоторые "неудобные" колхозники. Правление вполне может организовать собрание и исключить из членов артели лишних претендентов, чтобы упряжи на всех хватило. А соблазн удалить лишних велик. Тем более, что каждый собственник «доли» может ею распорядится к собственной выгоде: внести в уставный фонд, забрать при выходе из предприятия, продать ее по договорной цене, но не "абы каму", а только собственникам имущественных долей данного сельскохозяйственного предприятия, а если никто не купит, то получить денежную компенсацию, возможно в рассрочку. Так что намучаешься со своей «долей», если ее не приберет к рукам председатель или другой деревенский богатей.

Вот и получается, что имущество вроде и собственное, а из колхоза его не выцарапать. Проще бросить?

Но не в «доле» главное. Проект закона не подвергает сомнению существующую систему земельных отношений. Значит, захочешь забрать причитающийся тебе "хомут" — волоки его на собственные сотки, а за лошадью иди в колхоз (он будет называться по-новому: товарищество). Если же захочешь стать фермером, то землю придется "выбивать", как это делается сейчас. Вот и получается, что без колхоза — никуда. Короче говоря, колхозников готовы освободить, но без земли. И это тем более печально, что все наши соседи, бывшие соцлагерники, давно уже, каждый по-своему, признали за крестьянами право на главное средство его производства — землю.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

ИНВЕСТИЦИИ

# «Национальное достояние» наконец-то решили продать

**На состоявшейся 27 мая коллегии Совмина было принято решение о создании совместного предприятия по производству табачной продукции на базе Гродненской табачной фабрики.**

История с выбором иностранного инвестора для Гродненской фабрики длится уже более года. Оборудование предприятия давно изношено, товар не выдерживает конкуренции с импортными аналогами, мощности используются всего лишь процентов на 20. Вопрос о необходимости реконструкции фабрики и полного технологического обновления в последнее время стоит особенно остро, поскольку в начале года предприятие было даже на грани остановки.

В качестве потенциального иностранного инвестора американская компания *R.J. Reynolds Tobacco Co.* фигурировала давно. Однако белорусское правительство никак не могло решиться на «продажу национального достояния», приводя в качестве аргументов *«невыгодные условия»*, предлагаемые западными инвесторами. Сейчас же, когда «достояние» необходимо поднимать на ноги (чтобы оно вообще не исчезло), нас, похоже, устраивают почти любые условия.

В правительстве вопрос создания СП в Гродно вызвал бурю эмоций. Были предложения привлечь других инвесторов (желающих инвестировать было множество), прорабатывалась идея проведения международного тендера и др. Теперь же остановились на *Reynolds*. Компания предлагает инвестировать в уставный фонд будущего СП 12 млн. долларов США, получив при этом 50% акций. Председателем правления планируется назначить белорусского представителя, чтобы управленческий контроль оставить в руках государства. Для технологического обновления фабрики планируется привлечь примерно 50 млн. долларов в качестве займа под гарантии *Reynolds*. Срок модернизации при этом предположительно составит 2 года.

Решение принято пока на уровне правительства, и необходимо его утверждение президентом. Возможно, как только Лукашенко подпишет соответствующий документ, *Reynolds* заключит соглашение с Гродненской табачной фабрикой, и инвестиции постепенно пойдут. Теперь главное, чтобы процес в очередной раз не затормозился на «высшем уровне». Иначе чем дольше мы будем тянуть с реконструкцией, тем дороже она потом обойдется.

**Вероника СТРОЕВА**

# Товары станут понятными

**Совет министров принял постановление, согласно которому на территории Беларуси с 1 октября 1997 года запрещается продажа продуктов питания и промышленных товаров народного потребления, не имеющих информации на белорусском либо русском языках.**

Информация должна содержать сведения о стране и предприятии-изготовителе товара, его потребительских свойствах, условиях и сроках хранения и т.д. Товары, ввезенные по контрактам, заключенным до принятия постановления, могут реализовываться до конца этого года.

Документ был разработан на основе российского, принятого еще в конце 1996 года. Мировые компании уже производят товары с маркировкой на русском языке, что позволяет предположить, что белорусский язык в маркировке будет употребляться весьма редко.

**А.С.**

КОШТЫ
РЭКЛАМНАЙ
ПЛОШЧЫ
ў газеце **СВАБОДА:**
у рэкламным блоку — **36000** руб./см²
на асобнай паласе — **44000** руб./см²
у тэлевізійнай праграме — **48000** руб./см²
на першай паласе — **120000** руб./см²
**Форма аплаты – любая.
Традыцыйныя скідкі для турфірм.**
**Даведкі па тэл.
236-89-40**

# Инвестиции, или Индикатор большого обмана

Президентские экономисты сводят свою экономическую программу к трем основным составляющим — экспорт, жилье, продовольствие. Однако даже Петр Прокопович, первый вице-премьер, строитель и великий лоббист строительного комплекса по совместительству, как-то заявил, что без четвертого фактора — инвестиций — все три первых практически невыполнимы.

## Гнилое яблоко

Падение валового внутреннего продукта в странах бывшего СССР сопровождалась опережающими темпами падения объема инвестиций в экономику этих стран. А для перехода к стабильному экономическому росту необходимо, чтобы рост капиталовложений превосходил темпы роста ВВП. Иного варианта для вывода экономики из кризиса просто не существует.

Действительно, чтобы увеличить производство какого-либо товара, сделать его лучше в сравнении с товарами конкурентов и увеличить объемы продаж, необходимо вначале вложить определенные средства в оборудование, технологии. Если ограничиваться только покупкой сырья и комплектующих и продолжать работать на рассыпающемся и устаревающем оборудовании, то рано или поздно промышленность просто умрет.

В то же время, фактически проедая оставшуюся промышленность, сейчас можно достичь даже определенных успехов. Подобная стратегия выжимания последних соков экономического роста как раз и избрана Лукашенко. В результате белорусская экономика напоминает гнилое изнутри яблоко (внешняя картинка довольна хороша и красива — все-таки имеет место рост ВВП), а внутри лежит сердцевина будущего, еще более существенного, чем постсоветский, кризиса.

## Говорить о переломе преждевременно

Об инвестиционном кризисе можно судить по цифрам, приведенным в докладе министра экономики Владимира Шимова на недавно прошедшей международной научно-практической конференции «Развитие инвестиционной деятельности в современных условиях».

За 1991-1995 годы объем капитальных вложений в экономику Беларуси снизился на 60%. Что же касается наукоемких и базовых отраслей, то там падение было еще более существенным — до 26 раз. Техническая база основы белорусской экономики — промышленности — едва ли не полностью устарела. Лишь около 18% машин и оборудования соответствует аналогам высокоразвитых стран, но еще менее — лишь 4% — задействовано в технологических процессах, организованных на уровне мировых стандартов. То есть, даже современное, качественное оборудование используется неэффективно.

Не лучшая ситуация и в сельском хозяйстве. Почти все колхозы и совхозы, перерабатывающие предприятия прекратили обновление основных фондов. Износ основных производственных фондов в сельском хозяйстве составил 40%, а в некоторых колхозах и совхозах еще больше — 50%. В перерабатывающей промышленности ситуация еще хуже – износ достиг 60-70%.

В первом квартале 1997 года официально заговорили о росте инвестиций в Беларуси. Однако структура этого роста свидетельствует о том, что увеличились лишь инвестиции в жилищное строительство, причем почти целиком за счет средств государства. Кстати, выданные на эти нужды кредиты стали одной из главных причин резкого падения курса белорусского рубля. По инвестициям в промышленность и сельское хозяйство особых перемен в лучшую сторону не наблюдалось.

В результате министр экономики В.Шимов, выступая на конференции, признался: всерьез говорить о начавшемся переломе в функционировании экономики по меньшей мере преждевременно.

## Иностранные инвестиции

Финансовое состояние большинства предприятий кризисное. Число банкротов составляет более 30%, прибыльность работающих более-менее эффективно невысока. Для того, чтобы вкладывать в производство, у предприятий просто нет денег: им бы лишь расплатиться с бюджетом, выполнить приказы о росте объемов производства любой ценой да как-нибудь выплатить зарплату рабочим, причем последнее не всегда получается. Какие же здесь инвестиции? К тому же все сбереженные деньги съедает девальвация белорусского рубля.

В результате правительство пришло к пониманию необходимости иностранных инвестиций. Сама по себе идея хороша — переложить переоснащение белорусской промышленности на плечи иностранного капитала. Дешево и сердито.

Однако ситуация здесь еще похуже, чем с внутренними инвестициями (капиталовложениями самих предприятий и государства). За все время существования независимой Республики Беларусь сумма иностранных инвестиций составила менее 1,5 млрд. долларов. Причем явно прослеживается тенденция к их падению. Например, если в 1994—1995 годах было получено 327 млн. и 367 млн. долларов инвестиционных кредитов соответственно, то в 1996 г. — лишь немногим более 143 млн. долларов. К тому же предприятия не могут расплатиться по уже полученным кредитам: просроченная задолженность предприятий по кредитам составила на конец первого квартала 18,8 млн. долларов.

Инвестиционный климат в Беларуси международными экспертами оценивается как крайне неблагоприятный. Причем основными факторами в этой негативной оценке являются политическая нестабильность и отсутствие рыночных реформ. В конце концов, когда давать деньги Беларуси без выполнения ряда условий по реформированию экономики опасаются Международный валютный фонд и Всемирный банк, то это для всех инвесторов является признанным индикатором сверхвысокого риска инвестиций.

Беларусь не может предложить инвесторам ни высоких прибылей, ни твердых гарантий. В то же время потребность страны в иностранных инвестициях, по правительственным оценкам, составляет 1,5-2 млрд. долларов ежегодно.

Причем планы правительственных экономистов достаточно оптимистичны — к 2000 году довести долю прямых иностранных инвестиций (т.е. непосредсвенно вкладываемых зарубежным собственником в производство в Беларуси) до 46% от общего объема. Однако трудно понять, каким это образом может произойти, разве что в случае, когда внутренние инвестиции упадут до крайне низкого уровня. Пока же в 1996 году объем прямых иностранных инвестиций не превысил и 20 миллионов долларов.

## Рынок ограничен

В ситуации с иностранными инвестициями есть еще одна существенная проблема. Выступавший на упомянутой конференции заместитель министра экономики России Владимир Косов заметил, что общемировой рынок инвестиций составляет 335 млрд. долларов США в год. Причем абсолютное большинство этой суммы идет в развитые страны — США, Европу и др. Остальные конкурируют на остатках этого рынка, стремясь привлечь к себе хоть какие-то деньги. Более всего из развивающихся стран в этом преуспел Китай, но там особый случай — в экономику страны в абсолютном большинстве вкладывают средства разбогатевшие этнические китайцы, проживающие за рубежом, — хуа-цяо.

В результате Беларусь, работая на привлечение иностранных инвестиций, должна вступить в конкуренцию со всеми странами мира, многие из которых, в том числе и Россия, намного более привлекательны для вложений. И чтобы доля Беларуси составила хотя бы 0,5-1%, как это планируется по правительственным расчетам, то степень везения для нашей страны должна быть фантастически высока, так как на увеличение темпов реформирования экономики при нынешнем режиме рассчитывать не приходится.

**Алесь САДОВСКИЙ**

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# Хто прайграў вясну-97: апазіцыя ці ўлада?

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ



*Ці сапраўды вясна-97 аказалася начыста прайгранай апазіцыяй, як гэта сцвярджаюць некаторыя палітыкі і аналітыкі?*

Робячы такую выснову, яны параўноўваюць колькасць удзельнікаў сёлетніх акцыяў на вуліцах Мінска з колькасцю дэманстрантаў мінулагодняй вясною. І сапраўды: у апошняй акцыі (23 траўня) рызыкнулі прыняць удзел толькі некалькі дзесяткаў адчайных юнакоў, а ў мінулым годзе 30 траўня іх было некалькі тысячаў. Тады, сабраўшыся ў скверы насупраць прэзідэнцкага палаца, натоўп не задаволіўся толькі скандзіраваннем антыпрэзідэнцкіх лозунгаў, а пайшоў у наступ на «Валадарку» — да следчага ізалятара, дзе галадалі арыштаваныя Вячаслаў Сіўчык і Юрый Хадыка.

Заўважым і такую дэталь: у тую вясну ў варанкі яшчэ не цягалі ўсіх без разбору. Абодва бакі паводзілі сябе даволі мірна — толькі пагражалі.

Гэтай вясной усё было ўжо інакш. Пасля лістапада 96-га, калі ўладамі быў пройдзены Рубікон апошняй павагі да закона і шанцаў да прымірэння не засталося, ужо стала не важна, колькі «жывой сілы» з абодвух бакоў. Галоўнае, на якія дзеянні яны (вуліца і ўлада) здольныя цяпер. Год таму рэжым усё-такі выпусціў на волю Сіўчыка і Хадыку. А сёння ў турме на «Валадарцы» сядзяць ужо пяць дэманстрантаў, і ім шыюць крымінальныя справы.

Вуліца таксама радыкалізуецца. Яе аргументы ўжо не толькі мітынгі з грознымі заявамі і рэзалюцыямі, а гэта і рытуальнае спальванне лукашэнкаўскіх партрэтаў, і закідванне каменнямі міліцыянтаў, і вывешванне нацыянальнай сімволікі падчас акцыяў кшталту «Горад наш». Прадуманыя палітычныя дзеянні ўсё часцей саступаюць стыхійнаму супраціву. Нават выбух на газаправодзе можна, відаць, паставіць у гэты шэраг, бо калі інцыдэнт пад Уздой і не дыверсія, то ўсё роўна ён атрымаў велізарнае палітычнае гучанне. Такое ўражанне, што нехта спытаў нас усіх: «Будзем бараніцца любымі сродкамі?» — «Будзем», — прагучала ў адказ.

Такім чынам, пагадзімся: фон, на якім адбывалася палітычная барацьба сёлетняй вясной, быў прынцыпова іншым. Гэта быў фон прэзідэнцкай перамогі ў выніку сфальсіфікаванага рэферэндуму, і таму гаворку аб выніках вясны-97 лепш было б пачынаць не з пытання, што не ўдалося апазіцыі. Галоўнае — што не ўдалося ўладзе. І чаму?

## Вясна загубленых магчымасцяў

Як ні сумна гэта для беларускага прэзідэнта і ягоных памагатых, але вясну-97 яны, па вялікім рахунку, прайгралі. Па-першае, не ўдалося выканаць галоўную стратэгічную задачу — «трансплантіраваць» сябе ў Расію, каб там пасьпяхова завяршыць беларускі эксперымент (а толькі ў Расіі ён і можа пасьпяхова завяршыцца). Канешне, Лукашэнка будзе яшчэ спрабаваць «узяць Маскву», але тое, што адна з найлепшых магчымасцяў для гэтага страчана — безумоўна. І галоўная заслуга тут належыць апазіцыі. Ёй удалося не толькі публічна і эфектна адрэагаваць на кожную падзею палітычнага календара вясны-97, але і данесці гэтае рэагаванне да свету, і ў першую чаргу да Расіі. У выніку набірае сілу працэс паступовай рэабілітацыі нашай апазіцыі ў вачах сусветнага грамадства. Ды і звычайных грамадзянаў Беларусі, якія ў прынцыпе не цікавяцца палітыкай, ужо не палохае сам факт існавання апазіцыі — яна стала для іх такім жа неабходным колерам у малюнку жыцця, як і прэзідэнт.

І яшчэ адна істотная заўвага: калі год таму грамадская думка ўспрымала апазіцыю выключна як БНФ, то цяпер гэтае паняцце пашырылася. Нават простая бабулька, што гандлюе цыгарэтамі ў пераходзе, якую ганяюць і штрафуюць не менш, чым франтаўцаў, даведаўшыся, што самому спікеру Сямёну Шарэцкаму дасталося некалькі мільёнаў штрафу, зразумела: значыць, ён ужо не ўлада, а такі ж як мы ўсе, «свой».

Зрэшты, гэтыя змены ў настроях грамадскасці адчуў і Лукашэнка, які ўжо некалькі разоў вымушаны быў заявіць на тэлебачанні: маўляў, апазіцыя павінна быць, гэта нармальна для дэмакратыі. Думаю, што Аляксандр Рыгоравіч памыліўся ў выбары тактыкі барацьбы супраць лідэраў апазіцыі, калі свядома паставіў іх на адну дошку з шэраговымі дэманстрантамі і пачаў цягаць па судах. Цяпер яны сапраўды разам, а ён на сваім Алімпе застаецца адзін.

## Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе?

Дарэчы, наконт Алімпа. Тут у прэзідэнта таксама больш пройгрышаў, чым дасягненняў. Пасадзіўшы за краты сваю былую пратэжэ Тамару Віннікаву, Лукашэнка, канешне, павысіў папулярнасць у простым народзе, але страшэнна напалохаў наменклатуру. Другім моцным ударам па сваіх была «барысаўская справа», калі за ўдзел у прэзентацыі новага будынка падатковай інспекцыі паздымалі з пасадаў не толькі айцоў горада, але і кіраўнікоў прадпрыемстваў.

Атрымліваецца: што дазволена рабіць вышэйшай уладзе ў Мінску — не дазволена барысаўскім, гродзенскім, магілёўскім начальнікам... А гэта ўжо чыстай вады гарбачоўшчына, якая прывядзе да звычайнага сабатажу распараджэнняў прэзідэнта на месцах і паступовай страты аўтарытэту Лукашэнкі сярод сталічнага чынавенства. Глядзіце, з якой руплівасцю набліжаныя Лукашэнкі пачалі браць «пад свой дах» аб'екты гаспадаркі (прыклад — Камароўскі рынак). Яны падстрахоўваюцца на выпадак раптоўнага знікнення свайго шэфа з палітычнай арэны, як гэта пачалі рабіць гарбачоўцы ў пачатку 90-х, калі адчулі, што Міхаіла Сяргеевіча павяло «не туды». У нашым выпадку здрада будзе цалкам натуральнай рэакцыяй: чыноўніку ўжо не патрэбен Лукашэнка — народны герой, часы палітычных Робін Гудаў прайшлі, гульня з беднай публікай мае сэнс, толькі калі ёсць багатыя, але калі іх пагалоўна знішчаюць, то тэлевізійныя планёркі не маюць сэнсу. Калі шэф няздольны гуляць па зразумелых усім правілах, то шукаюць іншага шэфа, больш прадказальнага.

## Ідэалагічны вакуум

Раней менавіта на ідэалагічным «полі бітвы» беларускі прэзідэнт біў ушчэнт сваіх сапернікаў, бліскуча карыстаючыся парадоксамі грамадскай свядомасці, сфарміраванай у камуністычныя часы. Але цяпер стала відавочна, што ніякай новай ідэалогіі прэзідэнт не сфармаваў. Камуністычная ідэя ўжо не спрацоўвае, а дэмакратычныя каштоўнасці яму не па нутру («Я за цывілізаваным светам свой народ не павяду»). З усіх ідэалагічных схем застаюцца толькі «аб'яднанне з братняй Расіяй» і «мы — славяне». Не густа. Да таго ж сёлетняя вясна і тут паднесла Лукашэнку нечаканы сюрпрыз: браты-расіяне ўбачылі ў ім апранутага пад славяніна цыгана, які ў базарны дзень спрабуе прадаць ім крадзеную і перафарбаваную кабылу. Ад здзелкі адмовіліся, справядліва мяркуючы, што кабыла хутка сама здохне. За славянскае братэрства налілі чарку, але не больш таго (калі́х наліваць не сталі, бо ўсё адно разаб'е аб падлогу).

## Заход сонца над лукашэнкаўскім балотам

І, нарэшце, аб галоўнай паразе Лукашэнкі ў выніку вясны — аб здачы пазіцыяў перад Еўрасаюзам. Звычайны чалавек пачынае прыслухоўвацца да парадаў у стане разгубленасці, калі нароблена шмат памылак. Але наша ўлада хітрэй за звычайнага чалавека. Яна не прызнае памылак, прыдумляе, як зрабіць з іх перамогі.

Тое, што беларускі прэзідэнт пагадзіўся на дыялог з апазіцыяй пры пасрэдніцтве місіі Еўрапейскага Саюза, зусім не дэманструе ягонага шчырага жадання зрабіць, нарэшце, як лепш, як увесь свет. Лукашэнка ў чарговы раз спрабуе выйграць час, падмануць і Захад, і апазіцыю, і Расію, на якую Еўропа з Амерыкай націскаюць, каб паўплывала на «малодшага брата». І ўсё ж сам факт таго, што Лукашэнка, скрыгочучы зубамі, пагадзіўся пайсці на такія перамовы — яго велізарная параза не толькі за мінулую вясну, а і за ўсе тры гады прэзідэнцтва. Дыктатар губляе ініцыятыву, ён становіцца вучнем, якога прымушаюць выпраўляць двойкі. Па вялікім рахунку, гэта чыстае фіяска для Лукашэнкі-палітыка. Бо дзейнічаць у іншым палітычным стылі, акрамя як у дыктатарскім, ён увогуле не здольны. Далей усё пакоціцца, як снежны камяк з горкі. Чым больш дэмакратычным будзе Лукашэнка, тым слабейшым ён будзе палітыкам, і тады ўжо перамогі апазіцыі з разрада тэарэтычных пяройдуць у практычную плоскасць. Менавіта вясна-97, пры ўсёй яе знешняй неэфектыўнасці, і паклала пачатак гэтаму працэсу.

**Тры аўтарытэтныя еўрапейскія арганізацыі — Савет Еўропы, Еўрапейскі Саюз і АБСЕ — прыкладаюць агульныя намаганні, каб вярнуць Беларусь на шлях дэмакратычнага развіцця. Наша газета часта піша пра гэта. Аднак многія чытачы, як сведчыць рэдакцыйная пошта, слаба разбіраюцца ў тым, што ўяўляюць сабой СЕ, ЕС, АБСЕ, якая гісторыя дачыненняў Беларусі з гэтымі арганізацыямі, якія краіны ў іх ўваходзяць і г.д. Улічваючы зацікаўленасць нашых чытачоў, СВАБОДА будзе больш падрабязна пісаць пра гэта. Сённяшняя публікацыя — пра адносіны Беларусі з Саветам Еўропы.**

# Тупік на еўрапейскім накірунку

Прэзідэнт Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр заявіла, што кантакты паміж Страсбургам і Мінскам могуць быць нармалізаваныя толькі пасля правядзення ў Беларусі свабодных дэмакратычных парламенцкіх выбараў.

У верасні 1992 года Беларусь атрымала статус спецыяльна запрошанай, які дазваляў нашай дэпутацкай дэлегацыі ўдзельнічаць у сесіях Парламенцкай Асамблеі СЕ, але без права голасу. У сакавіку 1993 года міністр замежных справаў Пётр Краўчанка накіраваў Генеральнаму сакратару СЕ афіцыйную ноту (заяву) аб уступленні Беларусі ў Савет Еўропы. Наша краіна мела вялікія шанцы стаць паўнапраўным членам гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі. Аднак 13 студзеня гэтага года Бюро Парламенцкай Асамблеі СЕ вырашыла пазбавіць нашую краіну статуса спецыяльна запрошанага ўдзельніка сесій Парламенцкай Асамблеі. Беларусь страціла ўсякія сувязі з СЕ, як і Югаславія, якая была выключана з Савета Еўропы ў 1992 годзе. Тым часам паўнапраўнымі членамі СЕ сталі Эстонія (1993), Літва (1993), Латвія (1995), Малдова (1995), Украіна (1995) і Расія (1996).

Большасць еўрапейскіх краінаў прызнала незаконным апошні лукашэнкаўскі рэферэндум, разгон Вярхоўнага Савета і прызначэнне «кішэннага» парламента. Яшчэ напярэдадні рэферэндуму, які стварыў крызісную сітуацыю ў нашай краіне, у Мінск па запрашэнні старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага прыбыла прэзідэнт ПАСЕ Лені Фішэр. Прэзідэнт Лукашэнка падкрэслена ігнараваў заклікі Савета Еўропы да захавання законнасці і дэмакратыі. Ён нават не знайшоў часу для сустрэчы з Лені Фішэр, пайшоўшы гуляць у футбол. У выніку Рыгоравіч прайграў на міжнародным полі, прывёўшы Беларусь да ізаляцыі. Савет Еўропы не накіраваў сваіх назіральнікаў на рэферэндум, што ўжо было даволі трывожным сігналам.

Пасля т.зв. рэферэндуму ў Мінск прыбыла дэлегацыя СЕ, якая прааналізавала працэс *«канстытуцыйнай рэформы»* і прызнала новую канстытуцыю нелегітымнай. Пазбаўленне Беларусі статуса спецыяльна запрошанай азначае, што нашая краіна практычна выключана з кандыдатаў у члены Савета Еўропы. Як і іншыя еўрапейскія структуры (Еўрасаюз, АБСЕ), Савет Еўропы не прызнаў прызначаных Лукашэнкам «парламентарыяў». Адносіны афіцыйнага Мінска са Страсбургам зайшлі ў тупік. Спачатку толькі Масква выказалася супраць пазбаўлення Беларусі статуса спецыяльна запрошанай. Пазней голас у абарону Мінска падалі таксама Кіеў і Кішынёў. Дарэчы, асабліва актыўна абараняў рэжым Лукашэнкі ў Страсбургу дэпутат расійскай Думы Жырыноўскі.

Сёлета на вясенняй сесіі ПАСЕ расійская дэлегацыя зноў паспрабавала рэабілітаваць рэжым Лукашэнкі. У прыватнасці, расійскія «думцы» прапанавалі накіраваць спецыяльную місію Савета Еўропы ў Мінск і правесці семінар на тэму дэмакратыі пад эгідай СЕ. Ніводная з прапаноў «старэйшага брата» не знайшла падтрымкі ў еўрапейскай супольнасці. «Па блату» у Савет Еўропы паступіць немагчыма, трэба лічыцца з еўрапейскімі стандартамі дэмакратыі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## *Наша даведка*

Савет Еўропы — старэйшая на кантыненце кансультатыўная палітычная структура, якая дэкларавала *«абарону заходніх прынцыпаў і ідэалаў»*. Утвораны у 1949 годзе, пасля падпісання дзесяццю краінамі (Бельгія, Данія, Францыя, Вялікабрытанія, Ірландыя, Італія, Люксембург, Нідэрланды, Нарвегія, Швецыя) адпаведнага статута ў Лондане. Цяпер у СЕ уваходзіць сорак еўрапейскіх краінаў. У 1996 годзе ЗША атрымалі статус назіральніка.

Сярод першачарговых задачаў Савет Еўропы бачыць абарону парламенцкай дэмакратыі, правоў чалавека, вяршэнства закона, умацаванне дэмакратычных інстытутаў, прывядзенне да агульнага стандарта сацыяльнай палітыкі і юрыдычнай практыкі, развіццё нацыянальных культур еўрапейскіх народаў. Пачынаючы з 1989 года для Савета Еўропы становіцца прыярытэтным маніторынг дэмакратычных пераўтварэнняў у краінах былога сацлагера, кантроль за захаваннем правоў чалавека ў посткамуністычных дзяржавах.

Кіраўнічыя органы Савета Еўропы: камітэт міністраў замежных справаў (збіраецца два разы на год у Страсбургу і вызначае асноўныя дырэктывы) і Парламенцкая Асамблея, у якую уваходзіць каля 300 дэпутатаў, накіраваных нацыянальнымі парламентамі (збіраецца тры разы на год і мае кансультатыўныя функцыі). Прэзідэнтам Парламенцкай Асамблеі абрана Лені Фішэр (ФРГ). Генеральны сакратар Савета Еўропы (абраны на 5 гадоў) Даніэль Таршыс (Швецыя) узначальвае генеральны сакратарыят СЕ.

У якасці рабочых моваў выкарыстоўваюцца французская і англійская, у Парламенцкай Асамблеі — таксама нямецкая, італьянская, нідэрландская, партугальская, іспанская і турэцкая.

Важнай структурай СЕ з'яўляецца Еўрапейская камісія па правах чалавека. Гэта першая інстанцыя, дзе разглядаюцца выпадкі парушэння Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека. Другая інстанцыя — Еўрапейскі суд па правах чалавека. Краіна, якая ўступае ў СЕ, далучаецца да Канвенцыі і прызнае юрысдыкцыю Еўрапейскага суда. А грамадзяне краіны могуць звяртацца са скаргамі напрамую ў Страсбург (Францыя).

**КАДРЫ**

# Героі Мінскай вясны-97

*Вуліцы беларускай сталіцы сталі для іх палігонам*



